# іскры ільіча





ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА
№ 15
двухтыднёвая часопісь
для меншых дзяцей
ОРГАН ЦК ЛКСМБ
І НАРКАМАСЬВЕТЫ
1932
4 год выданьня

# У ЛАГЕРЫ

У калгасе „Праца“
Між садоў, прысад
Разьмясьціўся лагер
Юных акцябрат.

Сонца грэе шчыра —
Слаўная пара!
Тварыкі у дзетак
Радасьцю гараць.

Колькі тут раздольля
І які прастор—
Рэчка, луг квяцісты
Ды шумлівы бор...

Песьні і гамонка
Цэлы дзень зьвіняць.
Люба тут на сонцы
Загараць, гуляць.

Добра адпачыўшы
Летняю парой —
Добра і вучыцца
Будзем мы зімой!

А. Я.

Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КАМСАМОЛЬСКАЯ, 25.

# Першыя акцябрацкія



НАРЫС
А. ПАЛЬЧЭЎСКАГА

ФОТО-ЗДЫМКІ
Б. ПАПОВА

Дзесяцігадовы Сьцяпанка сядзіць пад густым клёнам і ўважліва чытае газэту. У яго цяпер, як і ва ўсіх акцябрат, што знаходзяцца ў лагеры, вольны час — адпачынак. Кожны па-свойму скарыстоўвае яго.

Вось **Рува,** чарнявы хлопчык, гуляе з другім акцябронкам у шашкі. Глянуўшы з-пад ілба на свайго таварыша, Рува радасна ўсьміхаецца:

— Я казаў табе,—праіграеш. Мне тата нават праігрывае. Ён толькі лепей за мяне ў шахматы гуляе і то аднаго разу, як тата абедаў, я яго абыграў.

— Яшчэ невядома чыё возьме,—трымаецца свае думкі Руваў таварыш.

У другім месцы **Люця Блонштэйн** сьпявае разам з групкай акцябрат. Яна лічыцца лепшаю сьпявачкаю і цяпер вучыць сваіх таварышак.

А каля нацягнутае сеткі групка хлопцаў і дзяўчатак гуляюць у валейбол. Як адны, так і другія лічаць:

— У нас тры.



*Фізкультурная зарадка ў лагеры.*

— А ў нас пяць,—гавораць з другога боку сеткі.

Далей на мураве — гуляюць у коні, чытаюць вершы, разглядаюць загадкавыя малюнкі ў „Іскрах Ільліча". Некаторыя акцябраты выпісваюць сваю часопісь „Іскры Ільліча", але такіх мала. Знайшліся нават такія, што зусім ня чулі нічога аб часопісі. У далейшым абяцаюць выпісваць самі і таварышоў па школе завербаваць.

Зьвініць акцябрацкі лагер у Анятове (каля Рудзенска). Бадзёрасьцю і радасьцю тут поўняцца прасторы.

Акцябрацкія лагеры арганізаваны ўпяршыню ў гэтым годзе. З 9 акцябрацкіх баз розных заводаў і фабрык г. Менску прыехала сюды другая зьмена—з 20-га ліпеня.

Раніцаю а палове восьмай гадзіны — ажывае лагер. Сігналіст кліча на двор. 90 заспаных акцябрат выбягаюць

на зарадку—разварушваць сваё цела пасьля сну фізкультурнымі рухамі. Далей паднімаюць над лагерамі сьцяг і групкамі па чарзе ідуць мыцца, чысьціць зубы, а адтуль—сьнедаць.

Кончаць есьці—сігналіст трубіць на збор. Зноў у тры шарэнгі становяцца акцябраты — кожны на сваім месцы.

Цяпер пачынаецца рабочы дзень у лагерах.

На кожны дзень асобны расклад. Адзін дзень ідуць на прагулку ў лес,—другі купацца ў рэчку, трэці—экскурсія ў калгасы. Там знаёмяцца з жыцьцём і работай.

На першай зьмене экскурсій у калгасы ня было. І дзеці ў сваёй насьценгазэце **„За здаровую зьмену“** перад ад'ездам напісалі:

**„Другой зьмене трэба правесьці некалькі экскурсій у калгасы, азнаёміцца з іхным жыцьцём, а то мы**



*Кончыцца зарадка—тады паднімаюць над лагерамі сьцяг.*

**ведаем аб калгасах толькі па кніжках. Наша начальніца не дадумалася паказаць нам працу калгасаў"...**

З вялікай задаволенасьцю праводзяць дзеці свой адпачынак у лагерах. Вось што піша аб гэтым акцябронак **Шэр** у газэце:

**„У лагерах нам было весела. Мы кожны дзень прымалі сонечныя ванны, хадзілі ў лес, на рэчку, нас знаёмілі з жыцьцём за межамі, праводзілі гутаркі аб сацыялістычным будаўніцтве. Кармілі нас у лагерах добра. Вярнуўшыся назад, я раскажу акцябратам і ўсім дзецям аб вялікай карысьці лагеру".**

Цэлы дзень чуюцца галасы, гоман, сьпевы, гульні акцябрат. І толькі а 9-й гадзіне ўвечары суцішваецца ўсё. Спакойны сон агортвае лагеры, што знаходзяцца ў былым панскім маёнтку.

А цяпер паглядзім, аб чым так уважліва чытаў Сьцяпанка ў газэце.

*„Цяжка жывецца дзецям працоўных у капіталістычных краінах. У Кітаі ад 6-ці год ідуць дзеці на работу. Яны цэлы дзень зьбіраюць бавоўну, ачышчаюць яе. Дзеці па 12—14 гадзін у суткі працуюць разам з маткамі, з бацькамі на фабрыцы. Работа іх цяжкая, а плата нікчэмная. Яны працуюць і галадаюць. Буржуі нажываюць тысячы, мільёны, а дзеці паміраюць ад цяжкае працы, паміраюць з голаду.*

*Галеча і беднасьць ня пускаюць дзяцей у школу, а буржуазіі гэта лепей, калі дзеці выраступь няпісьменнымі, бо няпісьменных рабочых лягчэй трымаць у няволі, лягчэй запалохаць „боскаю" караю".*

І параўноўвае Сьцяпанка сваё жыцьцё з жыцьцём таварышоў аднолетак за межамі. Вялікая розьніца!

Яны вось тут 90 акцябрат прыехалі адпачываць на вольным паветры.

Ці-ж яны зімою хадзілі на фабрыку працаваць? Не. Яны хадзілі ў школу. Яны па-ўдарнаму вучыліся, яны змагаліся за веды.

Зараз у школах летні адпачынак. І іх, 90 акцябрат, лепшых ударнікаў вучобы, а таксама слабейшых вучняў па здароўі — прыслалі ў лагеры адпачыць, навучыцца калектыўнаму жыцьцю.

Дзеці стараюцца загартаваць сваё здароўе, паправіць яго, каб з новымі сіламі пачаць навучальны год.

Толькі савецкая ўлада клапоціцца аб дзецях працоўных. Яна адчыняе ясьлі, дзіцячыя сады, лагеры. Савецкая ўлада не дазваляе працаваць дзецям. Яна дбае аб іх здароўі.



*Цэлы дзень тут чуюцца галасы, гоман, сьпевы, гульні.*

# ЖНІВО

Верш Т. КЛЯШТОРНАГА
Мал. А. ШАХРАЙ

Што на сьвеце больш
актыўна,
Што на сьвеце больш
магутна,
Чым работа калектывам,
Чым змаганьне дружным
гуртам?

Заўжды памятайце, дзеці,
Што ніякая на сьвеце
Ні навала, а ні сіла
Калектыву не асіліць.

Вось таму на нашым полі,
Дзе згуртована і жыва
Працавалі не паволі
Сваім дружным
калектывам —
Як сьцяна стаіць пшаніца,
Густа жыта каласіцца,
У гушчар сярпу ня
ўлезьці, —
Хоць ты сноп вяжы на
месцы

Вецер колас хіліць долу...
Сонца жнівеньскае ярка...
І пайшлі гуляць па полі
За жняяркаю жняярка.

Сноп на сноп у рад
кладзецца,
Аж няма снапом дзе
дзецца.

І усім праежджым дзіва,
Што так жыта зарадзіла.
І дзівуюцца суседзі,
Што сна́пом і легчы недзе.

Іх ня справіцца да змроку
Зьнесьці ў бабкі залатыя,
А тут ходзяць хмары
бокам,
Ходзяць хмары
дажджавыя.

Калі бліснула маланка
І віхор прамчаўся полем,—
Дзесяцігадовы Янка
Клікнуў хлопцаў
з непакоем.
І павёў на ніву тую
Ён брыгаду маладую.

Пакуль хмары дажджавыя
Ветры буйныя прыгналі,
Дык снапы, усім на
радасьць,
Хлопцы ў бабкі пастаўлялі.

---

Гэты вечар як ніколі
Хваляваў хлапцоў і цешыў,
Бо аднэй брыгадай болей
Працавала сёньня ў полі
У калгасе самым лепшым.






Апавяданьне А. ТАЕЖНАГА
Малюнкі В. ЦІХАНОВІЧА

Ня хаты ў Загор'і, а халупкі ды зямлянкі. Толькі ў кулака Саўкі Зарубы хата вялікая, крытая гонтамі.

Цяпер Саўку з хаты вытурылі ў зямлянку на дварэ. А ў хаце зараз кантора калгасу, сельсавет ды чырвоны куток.

У прыбудове Міхаська з маткаю жыве. Матка ў сельсавеце за старажыху.

На ўсіх калгасных сходах Міхаська — прадстаўнік ад атраду. Любіць паслухаць Міхаська. Цікава.

Вось сёньня прыехаў нейкі, увесь у скураное адзеты, і акуляры на шапцы вялізарныя. Сьмешны такі і з партфэлем. Гаварыў доўга, а потым нейкія паперы пакінуў і паехаў. Кажуць, дагавор, а што да чаго—Міхаська ня ведаў.

Калі разыходзіліся, Алесь Ванееў, старшыня, націснуў Міхаську шапку на нос і кажа весела:

— Ну, хлапец! Пасеем, брат, цяпер на ўсе сто. МТС нам трактар дае, працаваць весела будзе.

Дні ішлі адзін за другім, а трактара ня было. Сьнегу асталося ледзь-ледзь, толькі ў лагчынах ды каля платоў, дзе зімою гурбы былі. Раўчукі даўно зьбеглі ў рэчку. Калгась-

нікі ўжо ў поле прыгатаваліся і пробны выезд рабілі, а трактара няма. Сёй-той з трывогаю разважаць пачаў:

— Падманулі, мусіць. Надакляраваў той з акулярамі, каб плян большы прынялі, а сам паехаў. Як цяпер плян выконваць на конях, калі іх дзевяць толькі?

А тут яшчэ Саўка падбухторыў:

— Быў я ўчора на станцыі. Ніякіх там трактароў няма. І ня ведаюць пра іх нічога, толькі дарэмна зімою грошы з дурняў сабралі на трактары.

Сёй-той паверыў, а Саўка ўздыхнуў з палёгкаю і кажа:

— Гляджу на вас—жаласьць бярэ. Лапці носіце, а хлеб у сьвіронку дарэмна ляжыць. Нашто вам цяпер гэтулькі насеньня? Завезьлі-б вазоў два на рынак ды хоць абутак бабам купілі.

Учапіліся бабы за словы Саўкі, лаянку ўзьнялі ды да старшыні:

— Дай чаравікі і канец!

Ледзь угаварыў Алесь. Мужчыны таксама былі зашумелі. Алесь дакляраваў сам зьездзіць на станцыю—даведацца, ці праўду казаў Саўка.

Міхаська заснуў у гэты вечар сумны. Падмануў той, што з акулярамі.

Пабудзіў Міхаську незнаёмы голас. Вады вядро ў маткі просіць. Працёр вочы, а каля дзьвярэй Янка Чарняк, былы парабак Саўкі. Зірнуў Міхаська на акуляры на шапцы Янкі, такія-ж як і ў таго, што ў скураное апрануты быў.

Тут толькі ўспомніў, як зімою Янку на трактарныя курсы пасылалі.

— Ну, чаго дзівішся на мае акуляры? Хадзем, каня пакажу.

— Якога каня?

Сьмяецца Чарняк, налівае ваду з кадушкі.

— Жалезны, браток, конь, а заместа аўса газу есьць.



*— Гэта які кран у вас? пачуўся голас Саўкі*

— Трактар! — закрычаў Міхаська і саскочыў з ложку, нібы яго хто шылам штурхануў.

Каля хлява, дзе Саўкава малатарня стаяла, увесь пасёлак сабраўся. Тут і Міхаська праз натоўп уюном выскачыў. А каля варот ужо сябры яго сышліся: Міколка Мікітавых ды Адасік Язэпавых. Сьмяюцца, радуюцца.

Саўка падышоў, нібы падкраўся, зірнуў і фыркнуў у рыжую кудзелю барады?

— Загразьне, чым выцягваць будзеце?

— Заткні ляпу, трапло!—перапыніў яго Алесь.

Саўка пайшоў. Калгасьнікі, задаволеныя, таксама разыходзіліся.

Міхаська цяпер з хлява ня вылазіць. Усё каля Янкі трымаецца. Пыл абцірае, аліву лішнюю, і ўсё пытаецца, калі араць паедуць.

— Вось падсохне крыху, каб машына не буксавала, паедзем. Вытры вось лепш чысьцей карыта картару.

— Гэта дзе?

Янка паказаў пад трактар, і Міхаська, лежачы на сьпіне, моцна шараваў анучаю пузатае карыта машыны. Не заўважыў, як рукавом зачапіў за нейкі кручок, адтуль палілося цёплае нешта.

Напалохаўся Міхась. Выскачыў з-пад машыны.

— Янка, цячэ нешта. Зламаў я машыну, здаецца?..

Сьмяецца Чарняк, закрываючы кран.

— Гэта ты рукавом зачапіў. Калі не дагледзець, уся аліва выцеча, тады падшыпнікам капут. Расплавяцца і канец. Машыну без алівы можна ўшчэнт сапсаваць.

— Вось дык кран,—уздыхнуў Міхаська.

— Гэта які кран у вас?—пачуўся ззаду голас Саўкі.

Чарняк устрапянуўся і неўспадзеўкі для сябе адказаў, глянуўшы на былога гаспадара:

— Самы ніжні, а табе навошта?

— Ды так я... Хітрая вельмі штука гэта... А ты, Янка, вучаным стаў, ня наш брат. Калі араць зьбіраецеся?

— Заўтра,—нехаця адказаў Чарняк.

Раніцай, яшчэ ледзь сьвітала, усхапіўся Міхаська з пасьцелі. Штурхае Янку ў бок, будзіць.

— Уставай, Янка. Араць сёньня. Мамка вунь ужо самавар згатавала.

Паклікала Агата чай піць трактарыстаў, а Міхаську не сядзіцца. Не да чаю.

Саскочыў з лавы і бягом у хлеў.

„Вось дзівакі, варот не зачынілі",—падумаў Міхаська,— „залезе хто ды сьцягне што-небудзь".

У цемнаце шмыгнуў Саўка і штосьці жвава ў руках схаваў.

Шагнуў да варот і ласкава Міхаську:

— Думаў, Іван Сяргеіч тут... Няма...

— Выбірайся, выбірайся адгэтуль,—сказаў Міхаська.— Вось скажу Алесю.

Тут вышаў Янка. Загудзеў трактар і папоўз да варот. Міхаська правёў вачыма машыну ў поле, а потым зайшоў у хлеў.





У хляве ён пасьлізнуўся і траха ня стукнуўся носам аб сьцену. Нагнуўся — лужына. Паспрабаваў пальцам—аліва.

— Гэта-ж налілі неахайнікі!— і раптам нібы на вугаль наступіў. Падскочыў ад неспадзяванай страшнай думкі. „Кран адчынены... Аліва выбяжыць... Падшыпнікі... Капут машыне“... Куляй вылецеў за вароты.

На дарозе затаптаныя нагамі плямы.

Далей, за вёскай па няроўнай дарозе тоненькай нітачкаю цягнецца сьлед алівы.



Бяжыць хлапчук гэтым сьледам, думае: „не дагледзелі, адчыніўся кран“. І раптам маланкаю апякло мазгі. Нават спыніўся Міхаська. Успомніў, як Саўка адскочыў ад машыны.

— Ён!—закрычаў хлапец.— Ён адчыніў. Сам кран ня можа адчыніцца. Машыну загубіць

задумаў. — Што ёсьць духу паляцеў у поле сьледам за машынай.

Бяжыць, захліпаецца. Сэрца, як ня выскачыць... У роце перасохла. Духу зьмяняць не пасьпявае.

Але...

Ня відаць машыны. Нават матору ня чуваць. Далёка.

Хістаецца Міхаська бягучы, туман у вачох.

З гэтага туману выплывае верхам на кані Тодар Жгут, брыгадзір.

Падбег да яго Міхаська, за повад ухапіўся, крычыць...

— Гані назад... Машыну спыніць... Аліва цячэ... Падшыпнікі...

Не разабраўся Тодар, а ўсё-ткі пасадзіў хлапца за сабою і памчаўся ўсьлед за машынай.

Імчыцца конь. Толькі зямля, яшчэ ня зусім прасохлая, камякамі рвецца з пад капытоў.

І вось—выскачылі за ўзгорак. Міхаська аж павесялеў. Трактар яшчэ цэлы. Але—скарэй, скарэй!

Траха пад колы ня скінуўся Міхаська; крычыць, рукой пад машыну паказвае.

Спыніў Чарняк трактар, а Міхаська ўжо кран круціць і аліва плыве тоненькім раўчуком.

Паглядзеў трактарыст на кран, а ён каля самай шрубкі напільнікам прарэзаны. У картары алівы чуць-чуць асталося.

* * *



Вечарам у канторы не прабіцца было. Увесь пасёлак прышоў на сход. Калгасьнікі, аднаасобнікі...

Чарняк гаварыў доўга. Спацеў ад няпрывычкі.

— Кулак Саўка Зарубаў угаварваў прадаць насеньне. Не прайшло гэта. Тады шкодзіць пачаў. Толькі-б калгасу пакасьці нарабіць. Хацеў машыну загубіць, кран падпілаваў. Таксама сарвалася. Міхаська выратаваў. Яшчэ-б вярсту праехаць і капут. Новы трактар патрэбен быў-бы, бо рамонту ня менш, як на месяц было-б... А Міхаська малайчына!



У гэты вечар доўга цягнуўся сход.

А раніцай на калгасныя палі выехала не 16 двароў, а 27.





# ВЯЛІКІ



# ВЫНАХОДЦА

**Нарыс І. ШАПІРЫ**



*ІВ. УЛ. МІЧУРЫН*

— Вы, мусіць, чыталі пра тое, як дзядзька Дураў дрэсіруе розных зьвяроў. Ён навучае іх вытвараць розныя штукі. Вось перад намі морскі леў. Ён грузна перавальваецца з боку на бок і ледзь рухаецца па зямлі. Але морскі леў вельмі добра плавае. І дзядзька Дураў зрабіў яго карысным для чалавека. Ён навучыў льва ратаваць людзей, што топяцца, навучыў лавіць рыбу.

— Гэта мы чыталі,—адкажуць многія з вас.

— А ці чулі вы пра дзядзьку Мічурына, як ён вучыць расьліны, дрэвы?

— Расьліны?

— Дрэвы? Як-жа так?.. Яны-ж няжывыя?..

Усім, мабыць, стала сьмешна ад такой навіны.

Але як-жа дзядзька Мічурын навучае расьліны?

Вось зярняткі жыта. Яны маюць у сабе такія матэрыі, якія карысны для чалавека. Чалавек меле жыта, пшаніцу і пячэ з мукі хлеб. Хлеб расьце на полі. Усё гэта вядома.

Але бывае засушлівае лета. Сонца, сьпякота і няма ніводнай кропкі дажджу. Зямля патрэскалася, карэньчыкі жыта бяз вільгаці пасохлі, пажаўцела яно і загінула.

Тады бывае неўраджай, тады не хапае хлеба, тады голад.

І ўсё толькі праз тое, што жыта ня можа расьці бяз вільгаці, без вады.

Дзядзька Мічурын і задумаўся над тым, каб навучыць жыта расьці тады, калі ў зямлі будзе менш альбо зусім мала вільгаці.



*Дзядзька Мічурын навучыў расьці жыта і пры меншай вільгаці*

Або вось яшчэ.

На поўдні, дзе бывае цёплае лета, расьце шмат смачных і вельмі карысных расьлін. А пасадзеце гэтыя расьліны ў нас, яны загінуць ад сьцюжы. Калі-ж не загінуць, дык на іх усё-ж ня вырасьце смачных сакавітых пладоў. А добра было-б зрабіць

так, каб вінаград рос у нас, каб ён не баяўся нашага клімату, высьпяваў за наша кароткае лета.

Але як ты „навучыш“ такую расьліну, калі ў яе так пабудованы карэньчыкі, што бяз вільгаці расьліна ня можа расьці. А паўднёвыя расьліны маюць такія лісьця, што яны ў нас мерзнуць.



*Смачны вінаград расьце ў садзе Мічурына*

А вось на поўначы растуць такія дрэвы, карэньчыкі якіх пралазяць глыбока ў прамёрзлую глебу, а лісьця не баяцца сьцюжы. Але дрэвы гэтыя маленькія, тоненькія і нічога карыснага на іх не расьце.

Дзядзька Мічурын парашыў выгадаваць такое дрэва, якое-б не баялася і сьцюжы, як не баяцца паўночныя дрэвы, і на якім-бы расьлі такія смачныя сакавітыя плады, як на паўднёвым.

У дзядзькі Мічурына вялікі сад — каля 100 гэктараў. Дзіўны гэты сад. Расьліны розныя, адна да аднэй не падобны. І ў гэтым садзе дзядзька Мічурын „вучыць“ свае расьліны.

Вось дрэўца трохі падобнае на вішню, але ня зусім. Пасадзіўшы маладзенькую вішню, дзядзька Мічурын знарок не акопваў яе карэньняў.

— Хай „вучыцца“ расьці ў цьвёрдай зямлі.

Дрэўца расло ў цьвёрдай мала вільготнай глебе. Дрэўца зрабілася маленькім, на ім было мала лістоў, але яно выжыла. Карэньчыкі гэтага дрэва ўжо зрабіліся такімі, што маглі расьці ў цьвёрдай сухой глебе.

Пасьля дзядзька Мічурын зноў пасадзіў зярняткі з вішні ўжо прывучанага дрэўца. Новае дрэўца вельмі добра расло ў цьвёрдай глебе і не патрабавала шмат вільгаці.

Так праз гадоў 10—15 у садзе Мічурына вырасла дрэўца, якое сябе зусім добра адчувала ў цьвёрдай мала вільготнай глебе.



*Галінка паўднёвае вішні прынялася да паўночнага дрэва*

А цяпер трэба зрабіць так, каб вішні былі смачнейшыя, такія, як растуць на поўдні. Зноў пачалася ўпартая, доўгая работа.

Дзядзька Мічурын прышчапіў да выгадаванай вішні галінку ад паўднёвай вішні. Сокі з гэтай галінкі перайшлі на ўсё дрэва. Праз год на вішні ня было амаль ніякіх зьмен. Дзядзька Мічурын зноў зрабіў прышчэпку. Плады палепшалі. Вось так праз шмат год упартае працы дзядзька Мічурын „навучыў“ звычайнае паўднёвае

дрэва расьці на поўначы. Так зьявілася ў мічурынскім садзе шмат дзіўных расьлін.



*Кожны год новымі сартамі пладоў узбагачваецца сад Мічурына*

Дык вось, дзеці, хто такі вялікі вынаходца Мічурын. Савецкая ўлада дала яму вялікую магчымасьць займацца навуковаю работаю. Некалі ў яго быў невялічкі сад, дзе ён разводзіў розныя гатункі дрэў. Цяпер гэты сад павялічан да 100 гэктараў. У сваім вялікім садзе дзядзька Мічурын і працуе ўвесь час.

Кожны год усё новымі і новымі гатункамі вішняў, яблыкаў, груш, вінаграду ўзбагачаецца сад дзядзькі Мічурына.

Вялікі вынаходца робіць вялікую справу для ўсіх працоўных.

# Мастак

Апавяд. І. КАГАНОЎСКАЙ
Мал. Л. ЗДАНОЎСКАЙ



Любіць Ганка маляваць. Але ня любіць, калі ёй паказваюць на памылкі.

— Я малюю лепш за ўсіх, — кажа Ганка.

Калі яе брат Міхалка бярэ карандаш Ганкі, дык яна крычыць:

— Не чапай, ты ўсёроўна маляваць ня ўмееш.

— Чаму гэта ня ўмею, ты сама ня ўмееш,—крыўдзіцца Міхалка.

Вось сёньня з самай раніцы малюе Ганка і сьпявае:

Вось гэта вярба,
Калючая ўся
Іхвоячкі тры
Растуць ля ракі.

Вось тут намалюю
Бярозку малую,
І будзе увесь
Намалёваны лес.




Паглядзелі дзеці і засьмяяліся.

— Ну і наблытала ты Ганка. Дрэў ня ведаеш.

— Ну і мастак-жа з цябе...

Пакрыўдзілася Ганка.

— Праўда, дрэвы я пераблытала. Забылася. А вось цяпер буду маляваць гародніну.

Узялася яна маляваць гародніну.

І зноў засьмяяліся дзеці з Ганкі. Зноў наблытала яна.

— Адгадайце, дзеці, у чым была памылка Ганкі?






Нарыс Я. МАЎРА,
Малюнкі В. ЦІХАНОВІЧА

Так завуць нафту, якая ў гаспадарцы сапраўды нагадвае кроў.

Тук-тук-тук!—б'ецца сэрца ў чалавека і жывёлы і гоніць па жылах кроў, якая жывіць, саграе і рухае арганізм.

Тук-тук-тук! — б'ецца сэрца ў аўтамабілях, самалётах, трактарох, камбайнах, танках, цеплавозах, цеплаходах (паравозы і параходы), на фабрыках і заводах—і рухае мільёны арганізмаў—машын, рухае „чорнай крывёю" — нафтай.

Тут, мусіць, шмат хто можа заўважыць, што маторы рухаюцца не нафтай, а бэнзінай і газай (карасінай) і што бэнзына і газа зусім ня чорныя.

Справа ў тым, што бэнзына і газа вырабляюцца з нафты, а нафта чорная, густая. У такім выглядзе яна і здабываецца з-пад зямлі.

Потым нафта ідзе **на перагонку** на перагонныя заводы. Там яе падгушчаюць, пераганяюць па трубках і атрымліваюць розныя прадукты.

Спачатку вылучаюцца ў выглядзе пары самыя лёгкія часткі: іх зьбіраюць, ахалоджваюць і атрымліваюць бэнзіну. І бэнзіна гэтая бывае не аднолькавая. Паводле свае вагі яна падзяляецца на 5 гатункаў. Самы лягчэйшы завецца **эфірам** (нафтавы, бо ёсьць яшчэ эфіры сьпіртавыя), потым лёгкая бэнзіна, далей цяжкая бэнзіна, а там яшчэ два гатункі цяжэйшых.

Лёгкія гатункі лічацца лепшымі і ўжываюцца ў больш важных справах, напрыклад, у маторах самалётаў. Але-ж затое яны і вельмі небясьпечныя. Для іх досыць 28 градусаў гарачыні, каб адбыўся выбух, і такія выбухі вельмі часта здараюцца. Вось чаму з бэнзінай рызыкоўна мець справу і кожны павінен гэта ведаць.

Потым ідуць больш цяжкія прадукты, да ліку якіх належыць і карасіна. І гэтыя прадукты маюць да 7 гатункаў; карасіна сярод іх займае трэцяе месца.

Далей ідзе 6 гатункаў змазачнага масла. Першае месца займае вазэлін, які ўжываецца ў мэдыцыне. Далей—рознай якасьці масла для змазваньня машын.

Тады ўжо застаецца густая маса—**мазута**, якая ідзе на паліва. І нарэшце зусім густая астача—**гудрон**.

Апрача таго з нафты вылучаюцца і цьвёрдыя прадукты. Сярод іх важнае месца займае **парафін**, падобны да воску. З яго і сьвечкі вырабляюць і прапітваюць дрэва, каб яно ня гніло. З парафіну вырабляюць так званую „васковую“ паперу, ідзе ён на непрамакальныя тканіны, на выраб лепшых гатункаў паперы (глянцавай) і ў запалкавай вытворчасьці ўжываецца, і ў цукровай, і ў піваваранай, і кансэрвовай і шмат яшчэ ў якіх.



*Кожнае лета на вуліцах нашых гарадоў кіпяць катлы з асфальтам*

Другім вельмі важным прадуктам зьяўляецца **асфальт.** Разам з гудронам ён ідзе на пабудову тратуараў, вуліц, шашы. Асфальтовая вуліца, шаша — гэта лепшая, што можа быць у гэтай справе. І цяпер у нас асфальт ужываецца як ніколі. Кожнае лета на вуліцах нашых гарадоў, напрыклад у Менску, кіцяць катлы з асфальтам, а ці ўсе вы ведалі, што гэта дае нафта?

Апрача таго асфальт ідзе на ізаляцыю ў электратэхніцы, ужываецца ў гумавай прамысловасьці, у хэмічнай (палітура, фарбы) і шмат яшчэ ў якой прамысловасьці.

З нафты яшчэ вырабляюць газ для асьвятленьня і ацяпленьня. Часам ён сам выходзіць з зямлі і гіне. Цяпер мы „ловім" яго і скарыстоўваем. На Каўказе, у Дагэстане, шмат выходзіла ў паветра такога газу, а цяпер на ім працуе вялізарнейшая гута—**„Дагестанские огни"**.

І ў працэсе апрацоўкі нафты шмат газу — пары гінула ў паветры. Цяпер і гэта ўсё „ловіцца" і скарыстоўваецца.

Як вядома, на мыла ідзе тлустасьць — алей, а гэтыя прадукты нам вельмі патрэбны і для харчаваньня. Тады паспрабавалі гэтыя тлустасьці замяніць нафтавым маслам— і спроба вышла ўдалая. Цяпер нафта вызваляе для нас тысячы тон каштоўнае тлустасьці.

Адкуль узялася нафта, як яна стварылася.

Хоць і добра ведае нафту навука, але дакладна адказаць на гэтыя пытаньні мы яшчэ ня можам. Пакуль што большасьць вучоных лічыць, што яна стварылася з жывёлаў, а галоўным чынам морскіх.

Сотні тысяч, мільёны гадоў таму назад на зямлі адбываліся катастрофы, у часе якіх у пэўных мясцох гінула шмат жывёлы. Залітыя вадой і засыпаныя зямлёй, бяз доступу паветра, трупы жывёл ляжалі тысячагодзьдзі і ў іх паступова адбыліся хімічныя зьмены, якія і далі нафту.

Але некаторыя вучоныя даводзяць, што нафта магла зрабіцца з расьлін, нават з мінэральных матар'ялаў.

Тады адзін вучоны (**Энглер**) узяў тлустасьць і дробных морскіх жывёлінак (малюскаў) і перагнаў іх прыблізна пры такіх самых умовах, пры якіх яны маглі быць пад зямлёю. Сапраўды атрымаўся прадукт, які вельмі падобны да нафты.

Дзе і як нафта здабываецца,—раскажам у наступным нумары.

(*Канец будзе*).



# У КРАІНАХ ГОЛАДУ І ЖАБРАЦТВА



## ПРАЦА У БУРЖУАЗНЫХ КРАІНАХ— КАТАРЖНАЯ ПРАЦА

У буржуазных краінах кожны дзень закрываюцца фабрыкі і заводы.

Мільёны рабочых выкінуты на вуліцу. Яны — беспрацоўныя.

Але і тыя, што працуюць, маюць мала лепшае шчасьце, чым беспрацоўныя. Капіталіст хоча выціснуць з рабочых як мага больш сабе прыбыткаў.

За работу з кожным днём зьніжаецца плата. А рабочы дзень павялічваецца. Рабочы можа зарабіць толькі на хлеб і ваду, каб не памерці з голаду.

Праца для рабочых стала катаржнай, пакутнай.

Выхад з няволі толькі адзін — зьнішчыць буржуазію, стварыць сваю савецкую ўладу.

## СТОЙ НА ВАРЦЕ

Гульню гэту можна правесьці на школьным дварэ, ці на фізкультурнай пляцоўцы.

Задача гульні—практыкаваньне на пільнасьць і спрытнасьць.

Гуляць можа група з 8—16 дзяцей.

### ШТО ПАТРЭБНА ДЛЯ ГУЛЬНІ

Мячык набіўны, або футбольны ці баскетбольны, вяровочка і тры невялічкія калы, з якіх робяцца козлы (гл. малюнак).

### ЯК ГУЛЯЦЬ



Удзельнікі гульні становяцца кругам, на два шагі адзін ад другога. Пасярэдзіне круга становяцца козлы. Каля козлаў становіцца абаронца — **вартаўнік**. Удзельнікі стараюцца зьбіць мячыкам козлы, а вартаўнік абараняе.

Той, хто сабе козлы — атрымлівае ўзнагароду: ён сам ідзе абараняць іх, каб паказаць таварышом сваю спрытнасьць.

Удзельнікі не павінны сыходзіць з месца. Калі козлы пахіснуцца,—іх папраўляць нельга. Козлы лічацца зьбітымі, калі зусім паваляцца на зямлю. Становіць на месца козлы новы вартаўнік.

# п а д у м а й

## З А Г А Д К І

1. Пад якім кустом сьпіць заяц у час дажджу?
2. Што праходзіць праз горы, праз лясы, праз даліны, праз палі і само не варушыцца?
3. Што такое—мае шмат ног, а з поля на сьпіне едзе?
4. Два разы нарадзіўся, а памірае адзін раз.

## ЗАГАДКОВЫ МАЛЮНАК



Знайдзеце паміж ліній ход да жука.

## А Д Г А Д К І З № 12

**Рэбус.**—Чытай „Іскры Ільліча“.

**Загадкавы малюнак**—павярнеце малюнак бокам і зьверху ўбачыце партрэт правадыра кампартыі т. Сталіна.

## АДГАДКІ З № 13 і 14

1. Вецер. 2. На геаграфічнай карце. 3. Чарапаха і ракушка. 4. Сто „й“—стой. 5. Камар. 6. Сьвіньня.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: Л. РУСАКОВА. А. ЯКІМОВІЧ.

ЦАНА № 18 КАП.



# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

на 2-тыднёвую ілюстраваную акцябрацкую часопісь

# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА



„ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“ знаёмяць дзяцей у даступнай ім форме з нашым сацыялістычным будаўніцтвам і жыцьцём працоўных і іх дзяцей у буржуазных краінах. Часопіс арганізуе дзяцей на пасільны ўдзел у сацыялістычным будаўніцтве.

„ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“ даюць у кожным нумары апавяданьні, нарысы, вершы, песьні, гульні, п‘еські, галаваломкі і іншыя матар‘ялы.

Часопіс друкуе для сваіх падпісчыкаў дармовыя дадаткі.

Усе дзеці павінны чытаць сваю часопісь

# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

Сьпяшайцеся падпісацца на часопісь да канца году!

## УМОВЫ ПАДПІСКІ

| | | |
|---|---|---|
| На 3 месяцы | . . . | 90 кап. |
| „ 6 „ | . . . . | 1 р. 80 „ |
| „ 1 год | . . . . . | 3 р. 60 „ |

Падпіску здавайце на пошту і лістаносцам



Друкарня імя Сталіна   Зак. № 1809.   2800 экз.   Уп. Галоўлітбелу А—5